РЭЗАЛЮЦЫІ КАНГРЭСА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛАЎ

# Пра адносіны да выбараў

**Зыходзячы з таго, што:**

**1.** свабодныя выбары зьяўляюцца адзіным мірным шляхам да пераадоленьня глыбокага канстытуцыйнага і эканамічнага крызысу й дэмакратызацыі беларускага грамадзтва,

**2.** дэмакратычна абраны парлямэнт павінен быць адзіным заканадаўчым органам улады РБ,

КДС адзначае, што:

– грамадзяне Беларусі з восені 1996 году пазбаўленыя магчымасьці ўдзельнічаць у кіраваньні сваёй краінай праз дэмакратычна абраны і паўнамоцны парлямэнт,

– працягваюцца палітычныя рэпрэсіі супраць грамадзянаў нашае краіны, бясьследна зьнікаюць вядомыя апазыцыйныя палітыкі, у грамадзтве пануе страх, расьце палітычная эміграцыя,

– адсутнічае рэальны доступ апазыцыйных партыяў да дзяржаўных сродкаў масавае інфармацыі,

– прыняты выбарчы кодэкс не адпавядае міжнародным стандартам, не дазваляе забясьпечыць прадстаўніцтва ў парлямэнце розных грамадзкіх інтарэсаў, стварае ўмовы для фальсыфікацыі выбараў й не забясьпечвае даверу да вынікаў галасаваньня.

У гэтай сытуацыі любыя выбары пераўтвараюцца ў фарс, удзел у якім для дэмакратычных сілаў немагчымы.

КДС патрабуе правядзеньня рэальных перамоваў паміж уладай і апазыцыйнымі партыямі й выкананьня ўмоваў для правядзеньня свабодных і справядлівых выбараў, што былі сфармуляваныя ў Санкт-Пэцярбурскай дэклярацыі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ і Выніковым дакумэнце Стамбульскага Саміту кіраўнікоў дзяржаваў АБСЭ, а таксама ў Дакумэнце Тэхнічнае канфэрэнцыі па сытуацыі ў Беларусі ад 7 красавіка 2000 году, а менавіта:

– забясьпечыць наданьне парлямэнту рэальных паўнамоцтваў як адзінаму заканадаўчаму органу,

– прывесьці выбарчае заканадаўства ў адпаведнасьць да эўрапейскіх стандартаў,

– забясьпечыць рэальны доступ апазыцыйных партыяў да дзяржаўных сродкаў масавае інфармацыі,

– спыніць палітычныя рэпрэсіі, забясьпечыць свабоду мірных сходаў і свабоду слова.

Кангрэс заяўляе, што дэмакратычныя сілы прымуць рашэньне ўдзельнічаць у парлямэнцкіх выбарах толькі пасьля выкананьня ўсіх вышэйзгаданых умоваў. У адпаведнасьці з Канстытуцыяй РБ, гэтыя ўмовы павінны быць выкананыя за чатыры месяцы да выбараў.

Кангрэс станоўча ацэньвае намаганьні АБСЭ й іншых міжнародных арганізацыяў спрыяць правядзеньню ў Беларусі свабодных і справядлівых выбараў й заклікае іх накіраваць на выбары міжнародных назіральнікаў толькі ў выпадку выкананьня ўладамі Беларусі ўсіх вышэйзгаданых умоваў.

Кангрэс заклікае міжнародныя арганізацыі, парлямэнты і ўрады дэмакратычных краінаў заявіць, што ў выпадку невыкананьня гэтых умоваў выбары ў Беларусі ня могуць быць прызнаныя легітымнымі і дэмакратычнымі.




## Аб кансалідацыі Дэмакратычных Сілаў

КДС заклікае мясцовыя структуры арганізацыяў-удзельнікаў Кангрэса да стварэньня рэгіянальных Каардынацыйных Радаў дэмакратычных сілаў у вобласьцях, гарадах і раёнах, дзе яны яшчэ ня створаныя, для эфэктыўнай рэалізацыі сумесных палітычных рашэньняў КДС.

КДС даручае абноўленаму аргкамітэту падрыхтаваць першае пасяджэньне Каардынацыйнае Рады дэмакратычных сілаў – галоўнага каардынацыйнага органу, які будзе дзейнічаць да наступнага пасяджэньня Кангрэсу на аснове ўхваленай Кангрэсам Пастановы аб КРДС.

ПАСТАНОВЫ КАНГРЭСА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛАЎ

## Аб Усебеларускім Зьезьдзе за Незалежнасьць

**Канстатуючы** рэальную пагрозу незалежнасьці Беларусі,

**Выказваючы** абурэньне непрыхаванымі захадамі на здачу сувэрэнітэту нашай дзяржавы,

**Імкнучыся** да згуртаваньня ўсіх здаровых сілаў грамадзтва,

Кангрэс Дэмакратычных Сілаў пастанаўляе:

– **Ухваліць** ініцыятыву творчай інтэлігенцыі Беларусі па скліканьні Ўсебеларускага Зьезду за Незалежнасьць, першая сэсія якога адбудзецца 29 ліпеня 2000 году,

– **Заклікаць** усе арганізацыі, прадстаўленыя на Кангрэсе дэмакратычных сілаў, актыўна падключыцца да арганізацыйна-творчай падрыхтоўкі Ўсебеларускага Зьезду за Незалежнасьць праз Аргкамітэт і Рабочую групу.

## Аб Каардынацыйнай Радзе дэмакратычных сілаў

**1.** Каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў складаецца з прадстаўнікоў наступных партыяў: АГП, БСДГ, БСДП, БНФ, Беларускай партыі працы, Беларускай партыі жанчын "Надзея", а таксама прадстаўнікоў Прэзыдыюма Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусі, Асамблеі няўрадавых арганізацыяў, Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў, Грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя-97", прадстаўнікоў абласных і Менскай гарадзкой Каардынацыйных Радаў дэмакратычных сілаў. Пры гэтым адна арганізацыя мае адзін голас.

**2.** Для вырашэньня тэрміновых праблемаў КРДС можа зьбірацца ў скарочаным складзе без прадстаўнікоў рэгіянальных структураў. Рашэньні па арганізацыі агульнарэспубліканскіх кампаніяў прымаюцца КРДС з удзелам прадстаўнікоў рэгіянальных Каардынацыйных Радаў.

**3.** Для вырашэньня складаных праблемаў КРДС можа ініцыяваць сход Аргкамітэту.

**4.** Новыя арганізацыі могуць быць далучаныя да працы КРДС ейным рашэньнем.



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**Толькі што мы ўзгадвалі магілёўскі аўтазавод з нагоды сьвяткаваньня калектывам выпуску юбілейнага самазвала. Сёньня ізноў аўтазавод на вуснах ва ўсіх. Але па нагодзе, як гаворыцца, зусім процілеглай. Тут, у момант атрыманьня хабару ад прадстаўніка прыватнай фірмы за спрыяньне ў набыцьці заводзкай прадукцыі, арыштаваны кіраўнік аднаго з цэхаў. Дагэтуль лічылася, што хабарніцтва ў краіне пераможана.**

**Пра тое, што неператожнымі застаюцца і такія злачынствы, як злоўжываньне службовым становішчам і прысваеньне дзяржаўнай маёмасьці, нагадаў распачаты на тыдні суд над дырэктарам (былым, зразумела) магілёўскага "Зеніту". Васіль Асіпенка быў больш вядомы ў горадзе як нястомны змагар з Свабодным прафсаюзам, чым удалы кіраўнік праблемнага прадпрыемства. Паколькі спраўляцца з праблемамі не ўдавалася, чалавек вырашыў, відаць, пайсьці "іншым шляхам". Гэта й прывяло яго ў залю Цэнтральнага суда.**

**Міністар адукацыі Васіль Стражаў уручыў кіраўніцтву Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута пасьведчаньне аб наданьні навучальнай установе статусу Унівэрсытэта. Колішняя "машынка", якую скончыла, здаецца, палова Магілёва, цяпер будзе мець абрэвіятуру МДТУ. Гучыць прыгожа! – гэта пакуль усё, што можна сказаць у сувязі з навіной.**

**Днямі пікетавалі жыхары магілёўскага мікрараёну Казіміраўка. Найбольш актыўныя зь іх хацелі дамагчыся спыненьня будаўніцтва побач з дамамі і дзіцячымі пляцоўкамі, а таксама непадалёк ад прыватных агародаў новай аўтастаянкі. Пакуль пікет, які больш нагадваў стыхійны вулічны сход, станоўчага выніку ня даў.**

**Ізноў падаражэў хлеб. Толькі што на папярэдняе падаражаньне скардзіліся М.Дражыну ў калектыўным лісьце клімаўцы *("ТМ" нядаўна пра гэта пісаў)* – і вось табе адказ. Хаця, зразумела, што не асабіста Дражын падвышае альбо зьніжае цэны. Тое, што людзі скардзяцца "на эканоміку" вышэйшаму начальству, ёсьць найпершым сьведчаньнем хворай эканомікі і ня надта, даруйце, здаровага грамадзтва. З гэтага ж "грамадзтва" вылучэнцы прыходзяць на высокія, у тым ліку эканамічныя, пасады. Нейкае замкнёнае кола...**

**Каталіцкія сьвятары і паломнікі з Магілёўшчыны ў добрым настроі вярнуліся з Будславу, дзе ўдзельнічалі ў штогадовым кангрэсе ў імя Дзеўны Марыі. Гэты гарадок, што пад Менскам, вядомы сваёй цудатворнай іконай Сьвятой Дзеўны, якая лічыцца каталіцкай апякункай Беларусі. Асноўную імшу падчас кангрэсу ў Будслаўскім касьцёле правёў былы магілёўскі біскуп Уладзіслаў Блін, які цяпер узначальвае віцебскую каталіцкую дыяцэзію.**

**Мінулым тыднем у Бабруйску пачалі нарэшце хадзіць тралейбусы па доўгачаканых новых маршрутах. За гэта доўгі час змагаліся мясцовыя дэмакраты. Нагадаем, што Вячаслаў Сьвізуноў нават пагражаў уладзе галадоўкай на адным з прыпынкаў. Аднак, на шчасьце, абыйшлося бяз крайніх мераў. Тралейбусы зьвязалі цэнтар з "спальнымі" мікрараёнамі.**

**Нашая вобласьць пахвалілася тым, што поўнасьцю выканала дзяржаўны заказ па нарыхтоўцы зялёных кармоў для калгаснай скацінкі. Пра гэта насамрэч можна будзе сказаць толькі зімой. Касіць траву – яшчэ ня ёсьць усёй справай. Зь яе трэба нарыхтаваць сена, захаваць яго ад псаваньня і агню. А гэта тэхналёгія, тут толькі выганам гараджанаў на зялёныя палеткі не абыйсьціся. Вёска ж ці не развучылася зусім працаваць. Ёй даўно ня плоцяць, ня мае яна грошай і на "тэхналёгію". Зь пераможнымі рапартамі трэба было б пачакаць, але савецкая традыцыя патрабуе дакладаць напярэдадні сьвятаў аб перамогах і посьпехах. Вось на "Дзень рэспублікі" начальства й не ўтрымалася.**

***Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.***

РОЗДУМ ПАСЬЛЯ СОЙМУ МФ

# Карабель наш пакуль выплыў

***Трэцяя агульнарэспубліканская "сходка" Маладога Фронту прыцягнула вялікую ўвагу грамадзкасьці. На чацьвертым годзе існаваньня арганізацыя апынулася на мяжы расколу.***

Жарсьці напярэдадні былі падагрэтыя некаторымі недзяржаўнымі газэтамі. Прыкладам, перад самым Соймам унутраным справам МФ быў аддадзены цэлы разварот у "Нашай Ніве", дзе былі ня толькі артыкулы асноўных апанэнтаў – П. Севярынца і А.Шыдлоўскага, але й іншыя (небяспрэчныя, дарэчы) камэнтары і меркаваньні. Карацей, магілёўцы ехалі на Сойм у досыць напружаным і ўсхваляваным настроі.

Такім быў і сам Сойм. Былі прынятыя Статут і Праграма. Аднак усе чакалі, зразумела, выбараў старшыні. Прэтэндэнтаў было двое: Севярынец і Шыдлоўскі. Калі першы вёў гаворку з трыбуны аб канцэптуальных пытаньнях працы на пэрспэктыву, выказваў прапановы аб шляхах дзейнасьці, то другі, на жаль, засярodзіўся выключна на крытыцы Паўла Севярынца, да таго ж ня надта абгрунтаванай, а часам проста павярхоўнай. Не спадабалася многім дэлегатам таксама тое, што Аляксей увесь час настойліва падкрэсьліваў, што пацярпеў з-за рэжыму (як быццам той жа Павал, альбо многія іншыя рупліўцы МФ абміналі кратаў). За Паўла прагаласавала 105 дэлегатаў, за Аляксея – 45. Пакрыўджаны Аляксей адмовіўся ад прапановы застацца намесьнікам старшыні МФ і разам зь нешматлікімі прыхільнікамі сыйшоў ня толькі з Сойму, але наогул з Маладога Фронту.

Што думаецца цяпер, адразу пасьля таго, што адбылося на Сойме? З прыемнага гэта тое, што нашае магілёўскае прадстаўніцтва ў кіраўнічых органах МФ пашырылася з 2-х чалавек да 4-х.

Ёсьць і занепакой. Паколькі адзін выразна процілеглы бок пакінуў "карабель", праз пэўны час ёсьць небясьпека яго нахіленьня ў рэзкі крэн. Шкада таксама тых прафэсіяналаў, якія пакінулі МФ, бо іхны досьвед і руплівы патрыятызм, у якім ніхто не сумняецца, быў бы вельмі дарэчы на бягучым этапе нашай гісторыі.

Аднак пэсымызму няма. Ёсьць спадзеў на тое, што самое жыцьцё многае выправіць, а Малады Фронт здолее застацца сярод беларускай моладзі тым лідэрам і аўтарытэтам, якім ёсьць насёньня.

**P.S.** Сойм падрыхтаваў дакумэнты на афіцыйную рэгістрацыю арганізацыі. З набыцьцём гэтага статусу ў МФ будзе яшчэ больш магчымасьцяў для пашырэньня свайго ўплыву і ажыцьцяўленьня справаў на карысьць Бацькаўшчыны.

***Андрэй КАВАЛЁЎ***

ДЭКЛЯРАЦЫЯ IV ПАЗАЧАРГОВАГА ЗЬЕЗДУ БАЖ

# Аб спыненьні дыскрымінацыі незалежных СМІ і журналістаў у Рэспубліцы Беларусі

*Сёньня мы зноў пацьвярджаем сваю адданасьць ідэалам дэмакратыі, прыярытэту правоў чалавека й лічым адным з фундамэнтальных правоў цывілізаванага грамадзтва права на свабоду слова. Гэта магчыма толькі ва ўмовах рэальнай незалежнасьці сродкаў масавай інфармацыі.*

Мы канстатуем, што ўлады Беларусі ўсё далей адыходзяць ад прынятых у дэмакратычным сьвеце вызначальных праўных нормаў у сфэры друку, тэлебачаньня і радыё. Фактычна ігнаруюцца патрабаваньні Закону "Аб друку й іншых сродках масавай інфармацыі", якія замацоўваюць права грамадзянаў Беларусі ствараць, валодаць, карыстацца і распараджацца сродкамі масавай інфармацыі для выказваньня сваіх меркаваньняў, поглядаў і перакананьняў. Па ініцыятыве выканаўчае ўлады сыстэматычна зьмяняецца й дапаўняецца заканадаўства аб СМІ з мэтаю ўзмацненьня нагляду за грамадзка-палітычнымі газэтамі, а таксама ўвядзеньня новых пакаральных санкцыяў. Толькі сёлета за тры месяцы – сакавік, красавік і травень – Дзяржаўны камітэт па друку й органы пракуратуры вынесьлі 10 папярэджаньняў незалежным выданьням.

Мы лічым, што эканамічная дыскрымінацыя ў адносінах да незалежных СМІ ёсьць галоўным інструмэнтам ліквідацыі свабоды слова. "Зачыстка" інфармацыйнае прасторы працягваецца праз судовыя зыскі аб абароне "годнасьці дзяржаўных чыноўнікаў". Шматмільённыя, а ў асобных выпадках – шматмільярдныя зыскі накіраваныя на зьнішчэньне "няўгодных газэтаў".

Мы адзначаем адвольнае фармаваньне тарыфаў на паслугі дзяржаўнага прадпрыемства "Белпошта", якое выкарыстоўвае свой манапалізм у сфэры распаўсюджваньня газэтаў па падпісцы і ў розьнічным гандлі. Зь сярэдзіны мінулага году тарыфы для незалежных выданьняў павялічыліся ў некалькі разоў. З кошту, усталяванага рэдакцыямі, "Белпошта" забірае сабе ад 50 да 70 адсоткаў, што значна вышэй, чым у выданьняў, што фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту. Кошт паліграфічных паслугаў для незалежных газэтаў у 1,5-1,8 разы вышэй, чым для дзяржаўных.

Улада цалкам манапалізавала радыё і тэлебачаньне. Таму электронныя СМІ маюць строгую ідэалягічную накіраванасьць, якую журналістам і рэдактарам навязваюць штатныя прапагандысты з вышэйшых структураў улады. Сёньня пад прыкрыцьцём рэарганізацыі першага нацыянальнага тэлеканала фактычна ўводзіцца забарона на прафэсію, дзясяткі супрацоўнікаў могуць пазбавіцца працы з-за таго, што час ад часу спрабуюць выконваць свае прафэсійныя, а не ідэалягічныя абавязкі.

Інфармацыйная палітыка, якая праводзіцца дзяржавай, завяла беларускае грамадзтва ў тупік. Дзяржава ня можа функцыянаваць, калі грамадзяне ня маюць магчымасьці атрымліваць праўдзівую і ўсебаковую інфармацыю пра працэсы, якія адбываюцца ў краіне і за яе межамі. Далейшая палітыка інфармацыйнай блякады ўласнага грамадзтва прывядзе толькі да паглыбленьня самаізаляцыі тых, хто ўтрымлівае ўладу.

Мы лічым, што ўлада павінна неадкладна скасаваць найбольш адыёзныя палажэньні Закона РБ "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", у тым ліку такое, як абавязковае ўзгадненьне, а на практыцы – дазвол на разьмяшчэньне СМІ зь мясцовай уладай, што зьяўляецца перашкодай на шляху стварэньня новых незалежных газэтаў.

Мы настойваем на тым, каб улада забясьпечыла свабодны доступ да дзяржаўных СМІ, якія ўтрымліваюцца на сродкі падаткаплацельшчыкаў, для ўсіх грамадзянаў Беларусі, незалежна ад іхных поглядаў, меркаваньняў і перакананьняў.



Фота IREX

Перавбраная старшынёй БАЖ сп-ня Жана Літвіна на свабодзе. Фота зробленае падчас нядаўняга пікету ў абарону свабоды слова.

Мы патрабуем спыніць эканамічную дыскрымінацыю ў адносінах да незалежнае прэсы і стварыць роўныя ўмовы для дзейнасьці ўсіх сродкаў масавае інфармацыі.

Мы заклікаем супрацоўнікаў праваахоўных органаў і судовае сыстэмы кіравацца ў сваіх адносінах зь незалежным журналісцкім корпусам не ўказаньнямі "зьверху", а выключна Законам. На свабоду слова можна часова накінуць кайданы, але паставіць незалежныя СМІ на калені – нельга.

Мы верым, што Беларусь пойдзе шляхам Адраджэньня сваёй шматвекавой гісторыі, культуры, мовы і дзяржаўнасьці. Гэта наш агульны шлях, і дэмакратычныя журналісты яго прайдуць годна!

З ПРЭС-РЭЛІЗУ БАЖ

# Аб выніках расьсьледваньня падзеяў 25 сакавіка 2000 году

*У дакумэнце, што быў распаўсюджаны на зьезьдзе, нагадваюцца прыкрыя падзеі падчас сьвяткаваньня ў Менску 25 Сакавіка, калі былі затрыманыя некалькі сотняў мірных грамадзянаў і 35 журналістаў з розных краінаў, якія выконвалі свае прафэсійныя абавязкі. БАЖ зьвярнуўся тады ж зь лістом да тагачаснага міністра ўнутраных справаў Юрыя Сівакова, начальніка Галоўнага ўпраўленьня ўнутраных справаў Менскага гарвыканкаму Барыса Тарлецкага, старшыні Дзяржаўнага камітэту па друку Міхаіла Падгайнага, старшыні Менскага гарадзкога савету Ўладзімера Папкоўскага і Генэральнага пракурора Алега Бажэлкі.*

Грунтуючыся на заявах і сьведчаньнях ахвяраў, БАЖ патрабавала ад кіраўніцтва органаў унутраных справаў прынесьці публічныя выбачэньні й прыцягнуць вінаватых супрацоўнікаў МУС да адказнасьці ў адпаведнасьці з законам. Было прапанавана Генэральнаму пракурору ўзбудзіць крымінальную справу паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэксу: наўмыснае зьнішчэньне ці сапсаваньне маёмасьці (арт. 96), наўмыснае лёгкае цялеснае пашкоджаньне ці пабоі (арт. 110), перавышэньне ўлады ці службовых паўнамоцтваў (арт. 167).

Як жа адрэагавалі праваахоўныя органы на недапушчальныя й беспрэцэдэнтныя парушэньні правоў журналістаў?

У прэс-рэлізе паведамляецца, што міліцэйскае начальства праз колькі дзён пасьля падзеяў прынесла журналістам прабачэньні за паводзіны некаторых сваіх афіцэраў. У дасланым на адрас БАЖ афіцыйным паведамленьні з МУС паведамлялася, што "эти офицеры переведены на другую работу, не связанную с обеспечением охраны общественного порядка и непосредственного руководства личным составом". Аднак міністэрства адмовілася паведаміць прозьвішчы гэтых афіцэраў.

Кіраўнік Дзяржкамітэту па друку М.Падгайны прызнаў, што пасадавыя асобы ў дачыненьнях з прадстаўнікамі прэсы дзейнічалі неправамоцна. Менскі гарсавет ня даў ніякага адказу.

Пракуратура больш за месяц увогуле маўчала, хаця, у адпаведнасьці зь дзеючым заканадаўствам, рашэньне аб узбуджэньні справы павінна быць прынятае на працягу 10 дзён ад моманту падачы заявы (звароту). Толькі 3 траўня 2000 году менская пракуратура паведаміла, што "во время проведения несанкционированных массовых мероприятий в городе Минске 25 марта 2000 года действия работников милиции **явно не выходили** за пределы возложенных на них прав и полномочий, регламентированных Законом Республики Беларусь "О милиции".

Такім чынам, крымінальная справа супраць міліцыянтаў узбуджаная не была. У той жа час пракурор гораду М.Купрыянаў зазначыў, што пры затрыманьнях грамадзянаў і супрацоўнікаў СМІ міліцыянэры допусьцілі шэраг парушэньняў заканадаўства, і з гэтае нагоды пракуратура вынясе "представление" міністру ўнутраных справаў. Пакуль гэтага, як мы ведаем, ня зроблена.

25 траўня Генэральны пракурор Беларусі А.Бажэлка правёў прэсавую канфэрэнцыю, якую можна лічыць апошняй рэакцыяй уладаў на факты незаконнага затрыманьня журналістаў 25 сакавіка. На ягоную думку, журналісты самі былі вінаватыя ў тым, што прыйшлі на плошчу Я.Коласа, дзе зьбіраліся грамадзяне, быццам бы правакуючы тым самым супрацоўнікаў міліцыі на ўжываньне прэвэнтыўных мераў. А.Бажэлка, як вынікае з прэс-рэлізу, не заўважыў, што супрацоўнікі міліцыі й асобы ў цывільным, якія праводзілі затрыманьні, адмаўляліся прадставіцца і растлумачыць прычыны рэпрэсіяў. Ніводнаму журналісту не было дазволена пазваніць у рэдакцыю, сваякам ці блізкім. Таксама пракурор ня даў прававой ацэнкі й таму факту, што журналісты незаконна ўтрымліваліся на тэрыторыі вайсковай часткі звыш дзьвюх гадзінаў.

БАЖ, адзначаецца ў прэс-рэлізе, абураны бязьдзейнасьцю ўладаў і адпіскамі. БАЖ не здымае сваіх патрабаваньняў. БАЖ настойвае на правядзеньні ўсебаковага, руплівага расьсьледваньня з указаньнем прозьвішчаў і пасадаў супрацоўнікаў міліцыі, вайскоўцаў і "невядомых асобаў" у цывільным, якія зьдзейсьнілі супрацьпраўныя дзеяньні ў дачыненьні да журналістаў 25 сакавіка 2000 года.

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Асіповічаў

***Напрыканцы траўня ў кватэру начальніка падатковай інспэкцыі Ў.Дзівойны была кінутая бутэлька з гаручай сумесьсю.***

Аднак прылада не спрацавала. Пазьней яму падпалілі ўваходныя дзьверы. Пасьля гэтых здарэньняў у горадзе вельмі ўзмацніўся ціск на прадпрымальнікаў. У складзе адпаведнай "правяраючай" камісіі працавалі ажно 8 чалавек. У выніку былі зачыненыя 6 прыватных шапікаў, 8 чалавек папоўнілі шэрагі беспрацоўных. Зрэшты, раённыя ўлады можна зразумець: у дзяржаўных крамах тавары значна даражэйшыя за тыя, што прадаюцца ў прыватных гандлёвых кропках, – дзяржаўны гандаль гіне.

***Нядаўна ўначы два міліцыянты з дазволу прадаўшчыцы прыватнага шапіка Ірыны ўвайшлі да яе, каб "скласьці пратакол".***

Пасьля напісаньня пратаколу яны папрасілі дзяўчыну схадзіць разьмяняць ім 5 даляраў ЗША, бо, маўляў, ім ніхто не памяняе. Ірына зноў выканала іхную просьбу. Пасьля ж таго, як міліцыянты сышлі, яна раптам вырашыла праверыць касу, і нездарма – грошай паменела на 95 тысячаў рублёў.

Заяву прадавачкі са скаргай на міліцыянтаў разглядаў Асіповіцкі суд, які аштрафаваў яе на 65 тысячаў рублёў – "за сакрыцьцё прыбыткаў у памеры 95-ці тысячаў"...

***Усім вядома, што для калгаснага ладу ніколі не існавала (да і ня будзе) спрыяльнага надвор'я.***

Зіма 1999-2000 г.г. для грамадзкага статку была вельмі галоднай. Яшчэ адзін падобны пэрыяд жывёла наўпрост ня вытрымае. Таму галоўны "вэртыкальшчык" сп.Шчэцька высунуў жорсткія патрабаваньні: кожнаму кіраўніку ён загадаў нарыхтаваць па 200 кг зялёнай масы на кожнага працаўніка штомесячна.

*Мікалай ТАМАШОЎ*

### ...з Глуску



***На мінулым тыдні зноў падаражэў хлеб. Батон цяпер каштуе 221 рубель, а чорны хлеб – 210 рублёў.***

За апошні месяц кошт на хлеб зьмяняўся два разы, у выніку чаго ён падаражэў агулам на 40%. Да прыкладу, рабочы мясцовага аддзелу культуры на свой заробак можа зараз купіць адзін белы батон, палову чорнага й літар малака ў дзень. Выступаў працоўных з гэтай нагоды ў нашым раёне пакуль не было.

*Ігар КІРЫН*

### ...з Крычава

***У сярэдзіне чэрвеня гарадзкая арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" атрымала пасьведчаньне аб пастаноўцы на ўлік.***

Такім чынам абласное ўпраўленьне юстыцыі пацьвердзіла існаваньне ў Крычаве арганізацыйнай структуры адной з буйнейшых апазыцыйных партыяў. Дарэчы, на некалькі месяцаў раней за сацыялістаў на ўлік былі пастаўленыя крычаўскія камуністы (КПБ), а БНФ зрабіць гэта зьбіраецца недзе напрыканцы ліпеня.

***Напачатку ліпеня 70 крычаўскіх сем'яў атрымаюць новыя кватэры. Гэтай падзеі яны, з-за фінансовых праблемаў, чакалі амаль два гады.***

Зараз паскоранымі тэмпамі вядзецца ўстаноўка сантэхнікі, фарбоўка фасаду й добраўпарадкаваньне тэрыторыі вакол дому.

Але ж увядзеньне 70-кватэрнага сацыяльнага аб'екту значна не паўплывае на вырашэньне жыльлёвае праблемы крычаўцаў. Толькі ў адпаведнай райвыканкамаўскай чарзе налічваецца каля тысячы чалавек, якія хочуць вырашыць сваё "жыльлёвае пытаньне" з дапамогай дзяржавы.

***За пяць месяцаў крычаўскімі прадпрыемствамі і арганізацыямі выраблена прадукцыі й аказана паслугаў насельніцтву на 15% меньш, чым за той жа пэрыяд мінулага году.***

Найбольшае зьніжэньне паказчыкаў – у вытворчасьці будаўнічых матэрыялаў. Так, вытворчасьць канструкцыяў і вырабаў са зборнага жалезабэтону зьнізілася на 41%, цэмэнту – на 29,5%, шыфэру – на 40%. Толькі на 4-х з 9-ці прадпрыемстваў дасягнуты некаторы прырост вытворчасьці.

***У сельскай гаспадарцы, як кажуць, поўны правал.***

У параўнаньні з адпаведным леташнім пэрыядам колькасьць буйной рагатай жывёлы зьменшылася на 2100 галоў, свіны статак – на 1093 галавы. З студзеня па травень падзёж рагатай жывёлы склаў 380 галоў, сьвіней – 45. За гэты ж пэрыяд рэалізавана на забой 813 тон жывёлы або 76,7% да мінулагодняга. Надоена 3092 тоны малака, што складае толькі 79,2% да леташняга.

*Лявон СЬВЕЦІК*

### ...з Шклову



***Сталася зразумелым, чаму менавіта гэтая арганізацыя – Працуючых жанчын – зарэгістраваная ў райцэнтры.***

Гэта пры тым, што ніякая іншая афіцыйнага статусу ў раёне ня мае. Лідэрка новага рэспубліканскага ўтварэньня сп-ня Аліева днямі мела сустрэчу з У.Канаплёвым, падчас якой даводзіла намесьніку кіраўніка заканадаўчай палаткі гатовасьць сваёй партыі "канструктыўна" супрацоўнічаць з уладай. Субяседнік у сваю чаргу паабяцаў паклапаціцца аб памяшканьні для мясцовай філіі АПЖ. Ясна, што менавіта такія арганізацыі маюць "заданьне" адцяняць сапраўдную апазыцыю і прыняць удзел у выбарах, якія дэмакраты маюць намер байкатаваць.

***Райсавет прыняў распараджэньне аб зборы з фізычных асобаў "мясцовага падатку" на ўтрыманьне і эксплюатацыю інфраструктуры.***

Мясцовыя праваабаронцы адразу абвесьцілі, што будуць змагацца супраць гэтага рашэньня як незаконнага. Раней ім удалося дамагчыся адмены падатку "на вулічных прыбіральшчыкаў".

*Аляксандар ШЧАРБАК*

